## як нас знайсьці

Каб уступіць у Партыю БНФ, трэба зьвярнуцца ў мясцовую арганізацыю й напісаць заяву.


**Наш адрас:**
вул. Варвашэні, 8
220005 Менск
(мэтро «Плошча Перамогі»)

**Наш адрас у Інтэрнэце:**
www.pbnf.org
pbnf@pbnf.org


## нашыя тэлефоны




**Беларускі народ павінен жыць добра.**
# Не калі-небудзь, а цяпер!





## што азначае БНФ?

**Беларускі** — бо мы **патрыёты сваёй радзімы**, мы любім Беларусь, баронім яе інтарэсы, паважаем беларускую гісторыю, культуру, мову, традыцыі. Мы — незалежнікі.

**Народны** — бо мы палітычная арганізацыя ўсяго беларускага народу, адстойваем правы і інтарэсы **ўсіх людзей Беларусі**, а не асобных групаў.

**Фронт** — бо мы партыя **аднадумцаў** — моцных, мужных і салідарных людзей, **не баімся** цяжкай працы і небясьпекаў, бо мы на пярэднім краі барацьбы за незалежнасьць Беларусі.

## хто мы?

У Партыю БНФ уваходзяць нямала знакамітых людзей, вядомых у Беларусі і за яе межамі:

- народны пісьменьнік **Васіль Быкаў**
- народны паэт **Рыгор Барадулін**
- акадэмік, спэцыяліст у чарнобыльскіх пытаньнях **Іван Нікітчанка**
- прафэсар, біёляг **Ружа Ганчарова**
- дырэктар Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю **Уладзімер Колас**
- пісьменьнік **Уладзімер Арлоў**
- прафэсар, доктар мэдыцынскіх навук **Алесь Астроўскі**
- першыя дэмакратычныя дэпутаты Вярхоўнага Савету XII скліканьня **Лявон Баршчэўскі, Валянцін Голубеў**
- першы й надзвычайны паўнамоцны пасол Беларусі ў Нямеччыне **Пятро Садоўскі**
- вядомыя мастакі **Аляксей Марачкін, Алесь Пушкін**

Ад самага пачатку БНФ імкнецца, **каб людзі Беларусі жылі заможна й свабодна,** каб Беларусь была **незалежнай цывілізаванай эўрапейскай краінай.** Гэта і ёсьць **галоўнаю мэтаю** партыі БНФ.

БНФ — моцная партыя. БНФ **дамогся праўды пра наступствы Чарнобыля** й ратаваньня пацярпелых людзей. БНФ дабіўся, каб Беларусь стала бязьядзернай дзяржавай і каб нашыя салдаты ня ўдзельнічалі ў войнах на тэрыторыі Расеі.

Сёньня БНФ — гэта **самая масавая і найлепш арганізаваная** ў нашай краіне дэмакратычная партыя. Мясцовыя арганізацыі БНФ дзейнічаюць у 116 раёнах і гарадах Беларусі.

# партыя БНФ

## нашыя лідэры

У 1999 годзе Старшынём партыі БНФ абраны **Вінцук Вячорка**. Ён 1961 году нараджэньня, па прафэсіі выкладчык, лінгвіст, у дэмакратычным палітычным руху — з 1980 г



Намесьнікі старшыні:

**Віктар Івашкевіч**, прафсаюзны лідэр, галоўны рэдактар газэты «Рабочы»

**Павал Севярынец**, старшыня «Маладога Фронту»

**Галіна Сямдзянава**, юрыст, дэпутат Вярхоўнага Савету 12 скліканьня

**Юры Хадыка**, прафэсар, доктар фізіка-матэматычных навук

## якім шляхам мы ідзем

Мы імкнемся да ўлады мірным шляхам праз свабодныя, справядлівыя, адкрытыя выбары на мясцовым і цэнтральным узроўні. Дэмакратыя — гэта шчырае спаборніцтва, у якім мы маем досьвед і гатовыя ўдзельнічаць. Мы дамагаемся свабодных выбараў, каб ніхто ня змог падмануць выбаршчыкаў.

## што мы зробім

**Калі Партыя БНФ прыдзе да ўлады, яна:**

• Стабілізуе нацыянальную валюту, спыніць інфляцыю, а значыць, **спыніць рост цэнаў**

• **Гарантуе права ўласнасьці**. Верне грамадзянам Беларусі прыватную ўласнасьць на зямлю

• Будзе **праводзіць прыватызацыю** і акцыянаваньне прадпрыемстваў адкрыта і паводле ясных правілаў, што прывабіць сур'ёзных заходніх інвэстараў

• Спыніць перасьлед прадпрымальнікаў. Спросьціць сыстэму падаткаабкладаньня й зьнізіць падаткі, каб **стымуляваць прадпрымальніцтва і стварыць новыя працоўныя месцы**

• Гарантуе **свабоду слова й сумленьня**, свабоду сходаў, аб'яднаньняў, прафэсійных саюзаў

• Верне падзел і раўнавагу заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады. **Дэмакратычныя законы**, а не дэкрэты, будуць мець вышэйшую сілу

• Даможацца, каб міліцыя не была інструмэнтам для палітычных расправаў, а ахоўвала **грамадзкі парадак**

• Замест «вэртыкалі» створыць дэмакратычную сыстэму **выбарнага мясцовага самакіраваньня**

• Прыме ўраўнаважаны бюджэт. **Скасуе** г.зв. **«прэзыдэнцкі фонд»**, нікому не падкантрольны.

• Скіруе бюджэтныя **сродкі на адукацыю й ахову здароўя**. Падтрымае сыстэму адукацыі, якая дазволіць новаму пакаленьню будаваць цывілізаваную, эўрапейскую Беларусь

• Ажыцьцявіць рэформу аховы здароўя, наблізіўшы яе да сусьветных стандартаў, але захаваўшы даступнасьць мэдыцыны для ўсіх. **Абароніць здароўе нашых людзей**, забараніўшы вырошчваць харчовую прадукцыю на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях

• Рэфармуе сыстэму **сацыяльнага й пэнсійнага забесьпячэньня**. Каб дзяржава не магла абкрадаць пэнсіянэраў, яны павінны стаць гаспадарамі зароблены на пэнсію грошай

• Абароніць культурную самабытнасьць нашага народу, спыніць прыніжэньне **беларускай мовы**

• Будзе **разьвіваць замежныя сувязі**, патрэбныя Беларусі і яе грамадзянам. Скасуе нераўнапраўныя дамовы з Расеяй, але пакіне ўзаемавыгадныя. Прывядзе Беларусь у Эўрапейскі Зьвяз

• Правядзе **рэформу арміі**, забясьпечыць годнае жыцьцё вайскоўцам і іх сем'ям, скасуе спэцслужбы, не падкантрольныя закону

## нашыя перакананьні

• **Беларусь — эўрапейская краіна.** Яе месца ў сям'і свабодных квітнеючых краін сьвету

• Толькі ў **дэмакратычнай дзяржаве** з **рынкавай эканомікай** можна дасягнуць грамадзкай стабільнасьці і **высокага ўзроўню жыцьця** для ўсіх

• Палітычная і эканамічная **незалежнасьць** — неабходная **ўмова для працьвітаньня** краіны

• Дзяржаўны і эканамічны лад Беларусі мусіць быць **справядлівым**, спрыяць сумленным і працавітым

• Людзі Беларусі **маюць права** на ўсебаковае разьвіцьцё асобы, на адукацыю, на ахову здароўя, на забясьпечаную старасьць

• **Правы й свабоды асобы — непарушныя.** Не чалавек служыць дзяржаве, а **дзяржава чалавеку**

• Каб нашыя дзеці і ўнукі жылі **годна ды заможна**, каб ганарыліся сваёй краінай, дзяржава мусіць клапаціцца пра беларускую **культуру** і **мову**

• Беларусь павінна ўвайсьці ў **Эўрапейскі Зьвяз**, што **прынясе бясьпеку й дабрабыт** нашым грамадзянам



**партыя БНФ**

*будзьма разам!*